Цана асобнага нумару 20 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem.

№. 6. Вільня, Нядзеля, 14 Лютага 1926 г. Год II.

# Сялянская Ніва

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
Вільня, Завальная вул. 7. — (Wilno, ulica Zawalna 7).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 6 гадзіны апрача сьвята.
Газэта выходзіць раз у тыдзень.
Падпіска на адзін месяц 1 зл., на 3 мес.—2 зл., на 6 мес.—4 зл., на год—8 зл.
Перамена адрэсу 30 гр.



**Орган Беларускага Сялянскага Саюзу.**

## Сяляне і Работнікі.

У газэце „Беларуская Ніва“ колькі разоў чытаў я закіды „Беларускаму Сялянскаму Саюзу“, якобы ён хоча дзяліць сялян і работнікаў. Вот-жа хачу на гэта адказаць, што гэта абсалютная няпраўда. Сялянскі Саюз добра здае сабе справу з таго, што супольнымі сіламі сялян і рабочых можна лягчэй і хутчэй дабіцца сабе лепшай долі і у гэтай барацьбе патрэбны работніку селянін і наадварот: селяніну работнік. Толькі бяда ў тым, што работнік арганізаваны, а селянін не; і дзякуючы не арганізованнасьці селяніна, ён пападае ў такое палажэньне, што яго заўсёды эксплёатуюць (выкарыстваюць).

Паглядзім на палітыку і цыфры ў Польшчы: прадстаўнікі рабочых, прамыслоўцы, гандляры, капіталісты праз галовы сялян падалі сабе рукі і коштам сялян адны робяць сабе дабрабыт, другія—гэта ёсьць рабочыя, на гэта гледзячы маўчаць, затое што ім даюць хоць напалову быць сытымі.

Урад атрымоўвае пазычкі, дае іх на даволі дагодных варунках прамыслоўцам, вырабляюць тыя ці іншыя тавары, прадаюць іх у тры разы даражэй як перад вайною, а за прадукты, якія вырабляе селянін, плацяць надта танна. А як прыдзе пазычку аддаваць, то тут аддавай ты, браце, селянін.

Праўда, цяпер у Польшчы дзякуючы не нармальным адносінам, шмат безработных і ім кепска жывецца, але ім хоць троха ўрад памагае, а колькі-ж сялян безработных і хто ім памагае? Аб гэтым ніхто ня вядае ды і нікому галава аб гэтым не баліць, бо селянін не арганізованы, ня крычыць і ніхто на яго не зварачвае ўвагі.

Гэта аб безработных. Цяпер скажам некулькі слоў аб тых, якія працуюць; гэтыя ляпей жывуць у некалькі раз, як самы найбагацейшы селянін, не кажучы ўжо аб самым бедным; гэта тут, дзе ўладу мае буржуазія.

Паглядзім мы такжа, як жывецца селяніну ў С.С.С.Р., дзе бытцам мае ўладу ня толькі работнік, але і селянін. Аказываецца, што тут тое самае: горад жыве за рахунак селяніна. Аграрнай рэформы, ня глядзячы на тое, што ўлада рабочых ужо істнуе дзевяты год, ня зроблена. Дзе селянін падчас рэвалюцыі сам сабе прырэзаў кавалачак зямлі, тое і маець, а тыя, якія спадзяваліся, што рабочы прыдзе дый дасьць зямлі, нічога ня маюць. Бо ў маёнткі прышлі „саўхозы“ (камуністычн. гаспадаркі) і замест аднаго пана стала некалькі, а селянін, як ня меў зямліцы так і ня мае, а калі хоча зямлі, дык павінен выехаць у Сібір; ды і там ужо ня тое, што было. Рабочы-ж, які мае работу, а прамысловасьць там развіваецца і калі частка рабочых работы сёньня ня мае, то заўтра яе будзе мець,—жыве сабе зусім добра. Вось цыфры: рабочы зарабляе ад 40 руб. да 143 руб. 80 кап. у месяц; чыноўнік ад 45 да 180 р. у месяц, а так званыя „спецы“ (спэцыялісты) атрымоўваюць да 500 р. і больш. Але возьмем цыфры сярэднія, не бяручы, ведама, пад увагу гэтых „спецаў“. Сярэднім рабочы зарабляе каля 100 руб. у месяць; да гэтага мае безплатную школу, за невялікую плату тэатр, кіно, чытэльню, клюб, можа слухаць радіо і г. д. Адным словам, можа сёньня рабочы ў С.С.С.Р. жыць ды спадзявацца яшчэ лепшага.

А селянін зямлі мае блізу столькі, скольгі меў. Пуд жыта каштуе ад 80 к. да 1 р. 40 к., гледзячы ў якім вокрузе, значыць — у сярэднім можа селянін на 10 проц. даражэй бярэ за жыта, як давайны. За ўсе прадукты фабрычныя як газа, жалеза, боты, мануфактура і г. д. плаціць ад 150 прац. да 300 прац. цэнаў перадваенных. Падаткі таксама большыя як, перад вайною. З гэтага вывад, што ў С.С.С.Р. уладу здабывалі разам рабочы і селянін, але падзяліліся ня роўна, бо рабочы, зарабіўшы сто рублёй, калі нават лічыць па самай дарагой цане хлеб: па 1 р. 40 к. за пуд, можа купіць за свой заработак 71 пуд. жыта, у год 852 пуды. За кватэру — плаціць дужа нямнога. А селяніна такога няма, каб мог нават думаць аб цыфры 852 пуд. у год. Асабліва ў нас на Беларусі, каб селянін меў прадаць сто пудоў хлеба, то мусіў-бы ён быць вельмі заможны і на гэтых сто пудоў павінна працаваць уся яго сямья, зложана з некулькі душ. А што гаварыць аб беззямельных, якія каля Каляд хлеб купляюць? Вось абраз жыцьця селяніна.

Беларускі Сялянскі Саюз шануе ўсе здабыткі работнікаў: і 8 гадз. дзень працы і страхаваньне і другія сацыяльныя здабыткі. Толькі кажа сялянам: глядзіце, сяляне, работнікі зарганізаваны ў Саюзы, а кожны хіба ведае, што ў арганізацыі сіла! Рабочыя зарганізаваліся і ўмела сябе бароняць.

Беларусы Сяляне! Вас 80 прац., вы большасьць, дык арганізуйцеся ў моцны Сялянскі Сяюз, а як зарганізуецеся, будзеце сілаю, то з сілаю кожны лічыцца і тагды здабудзеце лепшую долю.

Знача, мы сяляніну кажам: не аддзяляйся ад рабочага, ідзі разам з ім, толькі будзь таксама зарганізаваны, як рабочы.

Дык Сяляне - беларусы, арганізуйцеся! Упісвайцеся ўсе ў сябры свайго роднага „Сялянскага Саюзу“! Помніце, што Ваша доля ў уласных руках.

Пасол **Ф. Ярэміч.**

---

## „Конкордат“ з жыдамі.

Польска-жыдоўскую ўмову, якую падпісалі прадстаўнікі жыдоўскага і польскага народу завуць „конкордатам“ мусіць дзеля таго, што гэтая ўмова была зроблена і ўвайшла ў сілу бадай адначасна з тым слаўным „конкордатам“, які польскі ўрад зрабіў з Рымскім Папай. Рымскі конкордат аддаваў у поўную залежнасьць ад ураду каталіцкае духавенства і зрабіў каталіцкі касьцёл у Польшчы пакорнай дзяржаўнай установай, так як даўней пры цары было з праваслайнай царквой у Расеі, а жыдоўскі „конкордат“ даваў жыдом нейкія правы, а ўраду падаваў надзею, што пры жыдоўскай помачы здабудзе сабе заграпічную пазычку.

„Конкордат“ г. зн. умова з жыдамі! Гэта-ж нячуваная рэч, каб палякі пагадзіліся з жыдамі! Аднак мы стаім перад фактам гэтай згоды. Кожны чалавек, знаючы польскія і жыдоўскія настрої напэўна-ж падумаець, што мусіць не абы-якія прычыны прывялі дасюляшніх заядлых ворагаў да такой згоды.

Так яно і ёсьць. Прычыны як з аднэй староны, так і з другой былі важкія.

Са стараны польскай — глаўнай прычынай падпісаньня ўмовы з жыдамі — было тое цяжкое палажэньне польскіх фінансаў, у якое ўвёў іх п. Грабскі. Усе стараньні п. Грабскага пазычыць грошай заграніцай разбіліся аб непрыступнасьць заграпічнага капіталу, каторы, як ведама, знаходзіцца ў жыдоўскіх руках. Там ясна паказвалі п. Грабскаму: што калі ня будзе зроблена згода з жыдамі, то заграпічнай пазычкі п. Грабскі і не панюхае...

Што рабіць? Трэба было пакарыцца і пайсьці на згоду з жыдамі.

З жыдоўскай стараны прычынай падпісаньня ўмовы было тое, што яны спадзяваліся нейкай палёгкі ад польскага ўраду. І папраўдзе кажучы мусіць **на паперы** гэтыя палёгкі здабылі, бо як цяпер выясьняецца, тая польска-жыдоўская ўмова мае аж **42 пункты**! І гэта ўмова патайная, якую добра знаюць толькі самыя глаўныя правадыры жыдоўскага народу ды верхаводы польскай палітыкі, а так ніхто з сьмяротных!

Да падпісаньня гэтай умовы найбольш пёрлі жыдоўскія паслы з Галічыны з паслом Рэйхам на чале. Галіцкія жыды болей спалянізаваны, дык яны скарэй ідуць на ўсялякую згоду з палякамі. Вось гэтыя жыды аказаліся большасьцяй у соймавым жыдоўскім клюбе, а так-жа на з'ездзе сыёністычнае партыі і яны рашылі ісьці на згоду з палякамі. Аднак процi гэтай згоды паўсталі некаторыя з жыдоўскіх дзеячоў з паслом Грынбаумам на чале, закідуючы, што паслы падпісаўшыя ўмову з палякамі, прадалі жыдоўскі народ. Тагды пасол Тон і Рэйх адняcьліся да партыйнага сыёністычнага суду, які на тайным паседжаньні зазнаёміўся з тэкстам польска-жыдоўскай умовы і, як кажуць, прызнаў яе добрай.

Апроч гэтага цяпер усюды адбываюцца падобныя суды (нават у Вільні) і ўсюды жыды выcказваюцца, што ўмова для жыдоў ня кепская. Аднак усюды гэтую ўмову засланяюць нейкай занавесай, каб, барані Божа, ніхто не даведаўся, што там у тэй умове напісана.

Гэтая таёмнасьць шмат чаго гаворыць. Яна прымушае дапусьціць, што там ёсьць пункты, якія маглі-б кампрамітаваць (апаганіць) жыдоўскіх правадыроў у вачах самых-жа жыдоўскіх мас і таксама ў вачах другіх нацыянальных меншасьцяў.

Бо як ведама, жыды належалі да агульнага блёку нацыянальных меншасьцяў у Польшчы, або да т. зв. „**шасностхі**“. Тагды ўсе нацыянальныя меншасьці: як беларусы, украінцы, немцы, стараверы і жыды ішлі да выбараў адзіным фронтам і гэтым здабылі сабе вялікую перамогу над польскімі

## Над магілай таварыша Валодзі.

Як кветачка восеньню ў лесе ссыхае
Галоўку схіліўшы на мох,
Так сілы прапалі яго маладыя —
Завяў ён у лепшых гадох...

Ён повен жаданьняў быў сьветлых аб лепшым,
Бо долі дагэтуль ня меў —
Ды сьмерць падасьпела, як траўку скасіла,
А жыці так бедны хацеў!

Таварыш бяздольны! Ня быць табе болей
Між намі, радзімы ты мой;
Ня чуць табе сьпеваў—забаваў вясёлых,
Прыгожаю раньней вясной.

Усё ачуняе, да шчасьця прачхнецца,
Пяяць будуць птушкі ў лясох —
І ты пажадаўбы на родны куточак
Апошні раз глянуць — каб мог.

Ды будзе трудненька з тэй цёмнай магілы,
Табе, даражэнькі, паўстаць.
Ой цяжка, цяжэнька, ды век маладому
Пад грудай зямлянай ляжаць.

Апошні разочак, браток, разьвітаўся
З краінай радзімых палёў. —
Пакінеш на векі ты родну сямейку,
Пакінеш братоў, кумпаноў.

Бывай-жа, Валодзя, і выбач сардэчна —
Мо' скрыўдзілі чым мы цябе;
Ў сырой дамавіне спакойны і вечны
Знашоў ты прытулак сабе...

**Міхась Касьцевіч.**

Вёска Бабpоўня, Скідэльскай гм.

---

сьпіскамі. Думалася тагды, што гэты адзін і суцэльны фронт будзе трываць і далей, што як адзіным фронтам бралі верх на выбарах, так адзіным фронтам будзем здабываць правы ў Полшчы... аднак вышла інакш. Жыды зламалі агульны фронт меншасьцяў, пакінулі беларусаў і ўкраінцаў у іхным змаганьні—і за місачку польскай сачоўкі падпісалі „конкордат“ з палякамі! Ды яшчэ нейкі тайны, каторага баяцца паказадь людзям!

Гэтай умовай з палякамі жыды паказалі, што ім давярацьня можна і што трэба спадзявацца не на жыдоўскіх хаўрусьнікаў, але перадусім на свае сілы.

**Горскі.**

# Гаспадарчы аддзел.

### Хворасьць польскіх фінансаў.

(Працяг).

II.

З гэтага труднага палажэньня польскіх фінансаў кіраўнічыя кругі Польшчы шукаюць выхаду. Найлепшыя польскія эканамічныя і палітычныя сілы думаюць над тым, як вывясьці кволую лодку польскіх фінансаў з бурнага мора, на якое яе пусьціў п. Грабскі і яго папярэднікі. А эканамічнае мора не жартуе, сярдзітыя хвалі бьюць і кідаюць злоты як маленкай лупінкай. Вось-жа, каб паратаваць злоты, польскія фінансісты і палітыкі кідаюцца на розныя спосабы, каторыя трэба нам разгледзіць.

Ужо п. Грабскі перад сваімі ўцекамі з міністэрства бачыў, што справа з фінансамі вельмі дрэнныя. Ён думаў іх лячыць заграгічнымі пазычкамі і прадажай манаполяў. Пазычку яму ўдалося дастаць у Амэрыцы—нешта каля 50 мільёнаў даляраў, нібы на адбудову зруйнаваных будынкаў — а праўду кажучы — на адбудову зруйнаваных польскіх фінансаў. Гэтыя пазычкі Грабскага былі моцна некарысны для народу, так што нават пястовец Бырка назваў іх „паршывымі“. Яны сьцягалі з народу вялікі працэнт і былі для польскага скарбу сапраўды паршывымі.

Апроч гэтага п. Грабскі прадаваў манаполі. Але і ад гэтай прадажы карысьці для польскага скарбу было мала.

Урэшце п. Грабскі пачаў біць більлён г. зн. грашовую дробязь па 1, 2 і 5 зл. ня лічачы цэлаў масы яшчэ драбнейшых грошай. Гэты більлён нічым не абяспечаны і затм яго можна біць, не ўглядаючыся колькі ёсьць у дзяржаўным банку золата. (Банкавыя банкноты па 10, 20, 50 і 100 зл. абяспечаны золатам на якіх 25—30% сваей вартасьці). Дык більлён пасыпаўся па ўсём краі як сьнег і цяпер банктотаў мала і відаць—іх замяніў більлён.

Пры канцы прошлага году більлёну было ў польскай дзаржаве каля 410 мільёнаў зл. а банкнотаў (хоць трошкі абяспечаных золатам і іннымі валютамі) было на 50 міл. зл. болей як банкнотаў! Гэтак рэдка дзе бывае.

Але скора і більлёну не хваціла на дзяржаўныя выдаткі.

А болей більлёнаў біць на можна было (яго па закону павінна быць ня болей як 12 зл. на душу, значыць 337 міл. зл.), а разходы ўсё павялічваліся. Затым злот і паляцеў уніз. Грабскі хацеў ратаваць злот, выкідаючы на біржу ўсе запасы даляраў з дзяржаўнага банку, аднак на гэта не пазволіў дырэктар банку п. Карпінскі. Тады п. Грабскаму асталося толькі ўцякяць з міністэрства.. Не памог яму і „конкордат“ з жыдамі...

Прыйшоў Скшынскі. Фінансы ўзяў у свае рукі мін. скарбу, эндэк Здзехоўскі. Першым чынам паехаў мін. Скшынскі разам з жыдамі (з пас. Рэйхам на чале) у Амэрыку і Англію пазычаць грошы (усё пазычаць, а хто будзе аддаваць!!). Але банкіры заявілі, што пакуль у Польшчы ня будзе зраўнаважаны расход з даходам, то ня можа быць ніякай гутаркі аб пазычцы! А калі і пазычаць, то пасадзяць па двух сваіх кантралераў у дзяржаўны банк і ў міністэрства скарбу. На такія варункі польскія палітыкі не пайшлі—і яшчэ датуль пазычкі не атрымалі.

Астаўся адзін выхад: зраўняць даходы з разходамі. Але як іх зраўняць? На гаспадарскі розум, дык даволі проста: паменшыць расходы а павялічыць даходы. Але ў Польшчы вышла так, што павялічыць даходы ўжо ніяк ня можна, бо і так падаткамі ўсіх пазарэзвалі. Значыць, астаецца другое: паменшыць расходы. А каб паменшыць расходы, трэба павыганяць добрую палову чыноўнікаў, уменшыць на палову войска (з 300 тыс. на 150 тыс. салдатаў), паліцыю, вучыцялёў, „самажонды“ і г. д.

Падняўся крык і нараканьне, што „ойчызна“ хлеб адбірае, дык міністры і польскія палітыкі рукі апусьцілі — баяцца зачапіць бюджэту, каб не ўгнявіць чыноўнікаў, паліцыі, афіцэраў і „саможондаў“... Думалі над бюджэтам доўга і ўрэшце „усталілі“ на 1.700 мільёнаў зл.! Значыць, болей за звыклыя даходы з 1925 году блізка на 400 міл. злотых! Скуль іх узяць? Вымалаціць болей з насяленьня як прошлы год ніяк ня ўдасца, а ў прошлым годзе разам з паліцыяй і сэквэстратарамі вымалацілі—ўсяго 1 мільярд 332 мільёны злотых. Каб зраўняць з тымі 1.700 мільёнаў злотых расходу, дык трэба ізноў пазычаць.

Усім людзям ведама, як цяжка было сабраць у прошлым годзе тыя 1.332 міл. злотых. Нават гэты бюджэт для Польшчы не пад сілу. Ангельскі фінансіст Юнг радзіў Польшчы выдаваць толькі 70 мільёнаў зл. у месяць, значыць у год 840 міл. зл. Даводзіў ён, што Польшча большага бюджэту ня выдзержыць. Тымчасам цяпер рада міністраў ухваліла бюджэт на 1.700 міл. зл, значыць удвая болей чым раіў Юнг. Бо і як-жа-ж выганяць паліцыю, чыноўнікаў, або касаваць на палову войска? Шкода. Ну дык паглядзім, „ануж“ удасца вылезьці і з такім бюджэтам—так думаюць польскія кіраўнічыя кругі — і тымчасам кінуліся пазычаць.

Але пазычку ніхто дарма не дае. А відзячы такое труднае палажэньне Польшчы, заграгічныя фінансісты і банкіры ставяць для яе вельмі трудныя варункі. Разгледзім адзін з такіх варункаў.

Амэрыканскі Банкерс-Труст згаджаецца даць грошы польскаму скарбу, але пад заставу тытунёвага манаполю на 20 гадоў. Банкэрс-Труст дае нібы 100 міл. даляраў, але па адрахунку разных працэнтаў і іншых выдаткаў даўбы Польшчы толькі 72 міл. даляраў. А калі б трэба было сплаціць італьянцам адступнага (бо і тым ужо заложаны тытунёвы манаполь) 12 міл. дал., то астаецца ўсяго 60 міл. даляраў. Тымчасам праз 20 гадоў амэрыканцы зарабілі-б на манаполі тутунёвым 630 міл. даляраў! Дык добры інтэрас—за 60 міл. пазычкі трэба было-б аддаць 630 міл. даляраў!

Вот якія варункі ставяць банкіры Польшчы! І як на дзіва, ёсьць людзі, каторыя думаюць падпісаць гэту пазычку...

Але што далей? Гледзячы на польскія фінансы, прыходзім да пракананьня, што мы ўсе запраўды тонем і ляцім у нейкую пропасьць беднаты і жабрацтва. Праз вялікую лічбу чыноўнікаў, войска і паліцыі, каторыя праядаюць народны грош, а таксама праз розныя зладзействы польскіх урадоўцаў, каторыя як Ліндэ, крадуць аграмадныя грошы, працоўны народ у Польшчы даходзіць да руіны... А польскія, „саможонды“ выцягваюць з селяніна пасьледнія сілы... Гэта ўсе відзяць. Ві_

---

## Цярністы шлях беларускай школы у Польшчы.

Прапазыцыя паслоў Беларускага Клюбу ў справе прасьледаваньня праз польскі ўрад беларускага школьніцтва і нарушэньня праз гэта Трактату падпісанага ў Вэрсалі ў 1919 г. між Саюзнымі Дзяржавамі і Польшчай, а так-жа арт. VII Мірнага Дагавору між Польшчай і Расеяй, падпісанага ў Рызе 18-га сакавіка 1921 года.

(Працяг).

Дзеля большага забразаваньня становішча беларускага школьніцтва ніжэй падаём 2 пісьмы беларускіх вучыцялёў:

1) „... Чаму нічога ня чутна аб беларускай школе — ані ўрадовай, ані прыватнай? Сялянскія дзеці бегаюць па вуліцы вёскі цяпер зімой бяз ніякага занятку. Вы ня можапе сабе падумаць, сколькі маю жалю ў сэрцы; дзіўлюся глецзячы на тоўпы сялянскіх дзяцей, якія трацяць дарма свае залатыя гады, ня могучы нават пачуць добрага слоўца і пераняць ад кагось добрыя прыклады... Народны жаль, жаль за Бацькаўшчыну не пакідае мяне ні на адзін дзень, будучага пры плугу, пры цапе... Ці я сьню? Часам я бываю як няпрытомны ад гэтага прыгнятаючага сну. Чаму гэта так ёсьць? Ці доўга гэтак будзе? Няўжо-ж мы гэткія, што пасьля гэтай вялікай вайны, якая абяцала новую эпоху, новае жыцьцё, лепшую будучыню для ўсіх народаў на сьвеце, наш народ—найчысьцейшую галіну славянскага племені, трэба было кінуць на некалькі гадоў у цемру, у якой мы цяпер апынуліся? Перад вайной прымушалі нас вучыцца ў расейскай мове, а цяпер я польскай мовай трывае гэткі самы прымус, але цяпер... дзеля зьдзекаў над роднай нашай мовай, дзеля зняваг, крыўд і прасьледу ніхто аб мове польскай і думаць са спакоем ня можа, бо яе не разумее, баіцца, бо польская мова для нас такая не ласкавая, крыўдзячая, срогая, страшная, што дзеці нашыя баяцца польскае мовы, як агню. Польскае мовы народ наш цяпер ужо ня любіць, бо мова польская ня ёсьць матка родная, а горшая, як злая і крыўдзячая мачыха. Навукі няма. Вёска жаласна стогне, хочучы мець школу ў матчынай роднай мове. Вёска хоча навукі і свабоднага разьвіцьця розуму, але наложана вялікія путы... Ня раз падумаю: няўжо-ж там на вярху вы нічога ня можаце памагчы гэтай справе? Вінаваціў-бы нашых паслоў і сэнатараў. Яны там, у Варшаве. Ад іх там не далёка ўсялякія міністэрствы, разныя пасольскія клюбы. Ім дарма можна ехаць цягнікамі. Чаму часьцей не паехаць да куратара ў Беласток, ці да школьнага інспэктара ў Слоніме, Навагрудку і г. д.?... Або нават часьцей схадзіць і да міністра асьветы ў Варшаве. Чаму яны іх не націскаюць? Чаму яны не энэргічна наступаюць?, бо час уцякае! Тут справа нацыі нашай! Тут справа народу беларускага! Сумна мне дужа і вельмі шкадую, што народ наш цяпер ня можа яшчэ выдаць народнага багатыра!... Такі не пабаяўся-б і сьмерці нават, а ня толькі вастрогу! Але што-ж? Кожны цяпер аб сабе думае, а што яму там да школ беларускіх. Што там каму да мас народных, якія гніюць у балоце, холадзе і ў беднаце, якія енчаць у цемры... Але! Вінаваціў-бы паслоў, вінаваціў-бы сэнатараў, але што-ж? Віджу і чую, што і яны нічога ня могуць зрабіць, паміма стараньняў, паміма забегаў — гэта пераходзе граніцы іх мажлівасьці. Кучы цэлыя клюбавых інтэрпэляцыяў у Сойме без адказу, а штож гаварыць нам аб нейкіх там нашых просьбах, аб канцэсыях на нашыя школы, аб нашых дэклярацыях на школы ў роднай мове... У міністэрстве, у кураторыум, у школьных інспэктаратах пануе адносна нас грабавая ціш— глуха і цёмна... Што гэта будзе, што гэта будзе?... Але досьць аб гэтым, мне цяжка на сэрцы, цяжка на душы. Яны ў мяне даўно збалелыя ад крыўды і няпраўды людзкой...

Чалавек маладым раз толькі бывае. Прапусьці дзень—ужо відаць, ужо можна пазнаць. А вы, людзі, бачыце: што ўжо 7—8 гадоў, як народ наш мучаецца бяз школ, без навукі, нават нашых прыватных школ не даюць! Працэнт няграматных і анальфабэтаў павялічваецца масова... Дык зважайце, глядзеце і крычэце, а як трэба, дык і плачце—можа хто пашкадуе... Шкадую моцна, што часу ня маю, мушу вазіць гной на поле, а не магу заняцца дзіцячымі душамі... Гэта ня ганьба, што вучыцель змушаны цяжка працаваць каля зямелькі, каля гаспадарства, але школа, што раблю не адпаведную сабе працу. Я, як чалавек, будучы дужа блізкі вёскі, скажу, што ў школах пачатковых у нас на Беларусі пад Польшчай праз 5—6 гадоў вучацца толькі 2%, а ў сярэдніх школах можа 0,1%. Вот вам і навука, вот вам і эдукацыя. Дык ці-ж ня плакаць і ня крычэць?... Брацьця, бачыце, як мне, пішучаму гэты ліст, сэрца кроўю і слязамі абліваецца з жалю, бачучы так цяжкую крыўду нашага народу... Як нейкі меч Дэмаклеса вісіць усьцяж над нашымі галавамі...“

2) „Ці ведаеце, братцы вы мае, што мы з дня на дзень чакаем, што вот, вот прыдуць і забяруць у вастрог... за школу беларускую, хаця-б прыватную, нашымі ўласнымі срэдствамі трыманую. А ці-ж ёсьць за што? Чаму-ж нам гэтак доўга не даюць канцэсіі на школу? Чаму зусім не адказываць на прашэньні нашыя аб канцэсіі? Хіба тады будзем мець спакой на душы людзкой, як ужо сядзем у вастрог, бо чуем, што горш ужо за тое, што ёсьць, быць ня можа, а жыць заўсёды пад пагрозай далёка горш, як у вастрозе...

Але нічога! Мы не баёмся! Мы рады, што зьяўляемся нявіннымі ахвярамі, і што церпім за свой народ, за сваю школу! Мы рады, што прыходзіцца цярпець дарма, нявінна! У вастрог пойдзем не адны мы, але з намі пойдзе Эвангэльле Хрыста і... разам з намі

дзяць і—пішуць бюджэт на 1.700 міл. зл... апроч бюджэту самўрадаў і іншых. А гэта для працоўнага народу, асабліва для беларускага селяніна не варожыць нічога добрага...

— — — — — — — — — — — —

З усяго, што мы пісалі, вывад ясны: Польшч перажывае цяжкі час.

Найбольшы цяжар у гэтым трудным палажэньні лажыцца на сялян, якім трэба пракарміць ня толькі лішніх чыноўнікаў, але і ўсю масу безработных рабачаяў, якія па гарадох не маючы работы дабіваюцца казённага пайка. Для нас сялян вывад такі, што мы павінны дабіцца кантролі ў дзяржаўных выдатках — а гэтага даб'ёмся толькі праз сільную сялянскую арганізацыю.

**Сялянец.**

# З Краю.

### П. П. С. баламуцяць.

Польскія сацыялісты ўжо ад некулькі гадоў асаблівую зьвярнулі ўвагу на беларуска-украінскае Палесьсе і на ваколіцы яго. Выдаюць яны па расейску газэту „Красное Знамя“ для нашага сялянства і прабуюць яго арганізаваць, маючы на мэце свае асаблівыя мэты. Разумнейшыя і сьвятлейшыя сяляне ня ідуць на іхную вудачку, але дурнейшыя і цямнейшыя дык часам і верацъ пэпэсам. Вот-жа гэтым прасьцерагаем наша сялянства прад тою сеткаю, якую расставілі на яго польскія соцыялісты. Мы беларусы сяляне маем свой „Беларускі Сялянскі Саюз“, дык пад сьцяг яго павінны ісьці і павялічаць рады яго.

### Напад бандытаў на аўтабус.

У дзень 2 лютага на сашы Сіняўка-Бярэсьце 20 бандытаў у масках напалі на аўтабус. Пасажыры пачалі адстрэлівацца і ранілі 5 бандытаў. Бандыты з свайго боку ранілі 6 пасажыраў. Бандыты ўцяклі, нясучы і сваіх раненых сяброў. За імі паслана пагоня, якая быццам знайшла ў нейкай вёсцы ўсіх...

# З Радавай Беларусі.

### Падгатоўка да новага беларускага слоўніка.

Інстытут Беларускае Культуры ў Менску ўтварыў адумысную сталую Камісію дзеля ўкладаньня слоўніка жывой беларускай мовы.

Камісія сабрала ўжо больш за 40.000 слоў, выбраных з літэратурных твораў XIX і XX сталецьця і запісаных на асобных картачках. Побач з гэтым ідзе выбарка і ўпісываньне на картачкі слоў са слоўнікаў Насовіча, Я. Ціхінскага, Шпілеўскага, ды з этнаграфічных зборнікаў.

Але Камісія асаблівую увагу зьвярнула на жывую беларускую мову, якой па сяньняшні дзень гавора наш народ. Камісія пастанавіла пабіць усю Беларусь на 10 акругоў паводле языковых асаблівасьцяў і скласьці 10 гэткіх акруговых слоўнікаў, рязьлічаючы, што ў кожным будзе да 10.000 слоў, запісаных з жывое мовы.

Тры акругі выпадаюць на Заходнюю Беларусь. Камісія Інбелкульту зьвярнулася да Беларускага Навуковага Т-ва ў Вільні з просьбай, каб яно ўзяло на сябе арганізацыю збору слоў з гэтых акругоў.

### „Ня толькі даюць, але і адымаюць“.

У вадным з нумароў менскай „Звезды“ у стацьці: „О предварительных пробах работы среди деревенской бедноты“ між іншым цікава адзначыць словы бедняка, што „савецкая ўлада ня толькі дае, але і адымае“. „Звезда“ піша што на гэтыя словы пасыпалася бура воплескаў.

Тая-ж „Звезда“ апісвае, што сяляне задаюць пытаньне: чаму савецкая ўлада ня мае магчымасьці даць беднаце па 10 дзесяцін зямлі ў той час, як яна прывозе з Амэрыкі чужаземцаў і надзяляе іх зямлёй. А калі такому цікаваму адкажуць, што савецкая ўлада чужаземцаў зямлёй не надзяляе, а толькі дае яе ў канцэсію, ці ў арэнду, дык тыя цікавыя кажуць: „якая розьніца, ўсё роўна“...

З гэтага бачым, як сяляне паволі даходзяць да сваей сялянскай клясавай сьведамасьці.

### Пробы заснаваць „Сялянскі Саюз“.

Менская „Звезда“ ў № 7 с. г., апісваючы, як камуністы ніяк ня могуць ясна абазначыць, хто на вёсцы кулак, а хто сярэдняк, і як яны ніяк ня могуць выклікаць клясовую барацьбу на вёсцы між кулаком, сярэдняком і беднатой,—цьвердзіць, што ў адным мейсцы Меншчыны нават былі спробы сялян арганізаваць свой Саюз, замест грысьці самі сябе.

Гэтае пажаданьне нашых братоў сялян мінчукоў можам толькі прывітаць.

### У будучым будзе лепш.

„Савецкая Беларусь“ у № 8 с. г. гэтак апісвае палажэньне бедняка селяніна ў Радавай Беларусі са слоў камуністы Крыніцкага, каторы казаў:

„Пасьля пастаноў XIV канфэрэнцыі пытаньне ставіцца прыблізна таксама, што вы бедняка забылі, што перад вамі сярэдняк, атрымлівае палёгкі кулак, а бедняка забылі. Ці праўда, што бядняк у цяжкім становішчы? — Верна. Ці робім мы ўсё, што патрэбна, каб дапамагчы бедняку? — Не, ня робім. Чаму? — Ня можам, ня маем сілы, няма сродкаў. Паварот які зрабіла партыя, далейшае разьвіцьцё вытворчых сіл прыводзіць да таго, што мы ўмацавалі **рэсурсы дзяржавы**, умацоўваюцца эканамічныя пазіцыі рабочае клясы і ў будучым мы здолеем больш пасабляць бедняку“.

А па нашаму і ў будучым будзе тое самае для сялянства, калі яно не зарганізуецца ў свой сільны клясовы Сялянскі Саюз.

# Беларусы у Чэхаславакіі.

### Сьвяткаваньне Скарынінскага юбілею.

Беларускае Культурнае Т-ва ім. Францішка Скарыны ў Празе 31 сьнежня 1925 г. сьвяткавала абыходзіны беларускага друку на Бацькаўшчыне.

Урачысты сход адчыніў старшыня Скарынінскага Т-ва гр. М. Ільяшэвіч, які ў уступнай прамове падкрэсьліў значэньне Чэскае Прагі ў мінуўшчыне і ў сучасным адраджэньні Беларусі.

Рэфэрат аб дзейнасьці і значэньні Францішка Скарыны прачытаў гр. П. Крэчэўскі, даволі жыва і прыгожа. Пасьля рэфэрату былі заслуханы прывітаньня ад розных беларускіх арганізацыяў ў Чэхаславатчыне, як студэнцкіх, так і грамадзкіх (выключаючы беларускі „камсамол“). Ад беларускай рады ў Празе прамаўляў гр. Захарка, ад „Вольнае Грамады“ беларускіх эсэраў—гр. Грыб, ад студэнтаў гр. Я. Станкевіч і інш.

Усе прамоўцы падкрэсьлівалі патрэбу ісьці па шляхох Францішка Скарыны, г. ё. працаваць на карысьць беларускага „люду паспалітага“.

### Беларускае Скарынінскае Т-ва.

Патрэба беларускай культурнай арганізацыі адчувалася ад самага пачатку істнаваньня Беларускае Калёніі ў Празе, але палітыканства перашкаджала гэтай справе. Беларускае (Крывіцкае) Т-ва ім. Фр. Скарыны ў Празе заснавалася на пачатку летняга сэмэстру мінулага году і складаецца пераважна са студэнцтва.

Некатарыя з ворагаў, якім да неўспадобы была гэтая арганізацыя ўсхапіліся за слова „Крывіцкае“ (ужываўшаяся побач з назовам „Беларускае“) і пачалі агітацыю, што гэта авантура Ластоўскага, які быццам адпускаець на гэта грошы. Гэта сваечасна ў беларускай прэсе было спраставана. Аднак факт той, што Т-ва матэр'яльных засобаў ня мае і таму ня можа вясьці інтэнсыўную працу.

Пераважна чытаюцца рэфэраты з гісторыі, літэратуры і іншых галін веды, як па беларусазнаўству, так і агулам, З вясны праектуюцца экскурсыі сяброў Т-ва па Чехаславаччыне, а па магчымасьці і пазамежы ае ў мэтах навуковых досьледаў. Покуль што Т-ва налічвае да 48 асоб пры старым складзе прэзыдыуму. У хуткім часе мае адбыцца гадавы справаздаўчы сход.

### Студэнскі дом.

Беларускае студэнства гуртуецца ў „Студэнскім Доме“, які служыць цэнтрам пражскагага беларускага жыцьця. Студэнскі Дом у большасьці замяняець хату нашым студэнтам у даслоўным значаньні.

Апраца матэр'яльных выгад, у вольную часіну беларускі студэнт можа знайсьці і пачытаць свае роднае друкаванае слова з усіх частак падзеленае Беларусі: „Савецкую Беларусь“, „Сялянскую Ніву“, „Голас Бэларуса“ (латвійская), „Беларускую Ніву“, „Полымя“, „Крывіч“ і інш. Пры бібліотэцы побач з кнігамі на ўсіх мовах маецца ўся прыгожая беларуская літэратура, не выключаючы апошніх навінак. Студэнскі Дом мае да 3000 сяброў 28-х нацыянальнасьцяў. Беларусы займаюць 8-е мейсца. Прадстаўнікам у Студэнскую Управу Ст. Д. ад беларусаў абраны калега М. Ільяшэвіч.

**Хронос.**

# З Польшчы.

### Падзел у Жыдоўскім Коле.

У Жыдоўскім Коле польскага Сойму ўзнялася вялізарная калатня—усё на грунце дагавору з польскай рэакцыяй. У выніку бурных спрэчак у клюбе выступіў з яго яшчэ адзін лявіцовы пасол Шыпер.

---

будуць артыкулы сьвята ўхваленыя 17 марца 1921 г. Польскае Канстытуцыі, як: арт. 95, 96, 97, 98, 99, 100, 102, 104, 105, 108, 109, 110, 111, 112, 113, 114, 115, 116, 117, 121, 124 і 126, у якіх і для беларускага народу загварантаваны ўсялякія грамадзянскія правы нароўні са ўсімі грамадзянамі Рэчыпаспалітай Польскай! Дык хай сядзем у вастрог! Бо пад гэткім цяжарам, пад якім мы тут у Заходняй Беларусі жывём, ніякай працы асьветнай, этычнай і маральна-рэлігійнай нават нельга вясьці, бо тут усё, але ўсё бяз вынятку падцягваюць пад камунізм. Пад гэты параванік усё і ўсіх нас падводзяць і прасьледуюць, хаця там ня будзе нават і падабенства, як неба да зямлі. Усё прымаецца за камунізм, што ня робіцца пад музыку розных адміністратараў...

Ці вы паверыце, брацьця мае, што мы да таго прыгнечаныя, так прыбітыя, што рука дрыжыць і ападае ў пісаньні, сэрцы нашыя плачуць і крывёй абліваюцца... Але што раз, то больш і больш людзей, якія нас разумеюць!...

Дык зважайце, браты вы мае! Націскайце, рушайце прашэньнямі, пасылайце—куды толькі здумаеце, не шкадуйце часу на пісаньне, мацней, мацней стукайце, стукайце кулакамі, ня слухаюць — нагамі, ня слухаюць-бярэце мазьніцы ў рукі; яшчэ мала — тапор; сьпяць цьвёрда—бразгайце ў вокны, клічце на помач—крычэце ў ва ўсё горла, крычэце так, каб увесь сьвет пачуў, што народ наш беларускі гіне, што яго пхаюць і кідаюць у пропасьць цемры і анальфабэтызму!...

1-га лістапада 1925 г.“

III.

Вышэй абрысаваны стан беларускага школьніцтва ясна сьведчыць аб тым, што ўрад польскі плянова вядзе палітыку полёнізацыйную на беларускіх землях, прасьледываючы беларускае школьніцтва, і праз гэта нарушае міжнародныя дагаворы, як: арт. 2—9 дагавору між Заюзнымі Дзяржавамі а Польшчай, падпісанага ў Вэрсалю 28 чэрвеня 1919 г. і арт. VII Мірнага Дагавору між Поньшчай а Расеяй і Украінай падпісанага ў Рызе 18 сакавіка 1921 г.

Апрача гэтага урад польскі зусім не спаўняе ўласнага праекту ўставы языковай школьнай 31 ліпня 1924 г. у маштабе беларускага школьніцтва публічнага, не дапушчаючы да паўстаньня ані беларускае публічнае школы, ані гэтак званай утраквістычнае.

У арт. 9 Дагавору Вэрсальскага Польшч нават забавязалася ў справах публічнага навучаньня даваць адпаведныя палёгкі, каб запэўніць у пачаткавых школах нацыянальных меншасьцяў навуку дзецям у іх уласнай мове. „У местах і акругах заселеных праз значную частку грамадзян польскіх належачых да меншасьцяў этнічных, рэлігійных, або языковых, меншасьцям гэтым будзе загварантаваны справядлівы ўдзел у карыстаньні, а так-жа ў празначэньні сум, якія бюджэты месныя, або іншыя прызнаюць з фундушаў публічных на ўзгадавальныя мэты, рэлігійныя, або дабрадзейныя“.

Гэтак кажа Вэрсальскі Дагавор.

А ці Польшч хаця-б адзін грош асыгнавала ў бюджэце дзяржаўным, або самаўрадавым (на беларускіх землях) на беларускае школьніцтва? Не, мы ня маем у дзяржаўных бюджэтах ні аднае пазыцыі на беларускую школу.

Бюджэты самаўрадавыя ў акругах (пэветах) беларускіх то-ж не даюць крэдытаў на беларускія школы, бо бюджэты гэтыя ўкладае ўрадовец польскі—стараста. Знача, замест помачы, апекі над беларускім школьніцтвам, маем толькі прасьледаваньне яго, нішчэньне беларускіх школ і нацыянальны уціск.

Дзеля гэтага ніжэй падпісаныя прапануюць Высокаму Сойму ўхваліць:

Зважыўшы, што стан беларускага школьніцтв ў межах Польшчы, не зважаючы на міжнародныя трактаты, Канстытуцыю і Уставу з 31.VII. 1924 г., знаходзіцца ў дужа цяжкім стане, што люднасьць беларуская ў Польшчы ня мае ані ўрадавых, ані прыватных беларускіх пачаткавых школаў, што адкрыцьцё пачаткавае прыватнае беларускае школы бязцэрэмонна нішчыцца праз уладу школьную і паліцэйскую,

Сойм прызывае Урад:

1) да спыненьня палітыкі ўціску нацыянальнага беларусаў і прасьледаваньня беларускага школьніцтва;

2) да адкрыцьця 412 пачаткавых публічных беларускіх школаў, на якія зложаны дэкларацыі школьныя;

3) да неперашкаджаньня бацькам да складаньня ў далейшым дэкларацыяў на беларускія школы, а так-жа адкрыцьце, або ператварэньне жаданых школ на школы беларускія;

4) неперашкаджаньне ў адчыненьні прыватных беларускіх школаў;

5) да адкрыцьця ўсіх зачыненых праз уладу прыватных беларускіх школаў;

6) да перастаньня ўжываць рэпрэсыяў да беларускіх вучыцялёў і скасаваньня спраў судовых проці іх-жа і проці поўнамоцнікаў дэклярантаў;

7) да адкрыцьця на беларускіх землях адпаведнай колькасьці вучыцельскіх сэмінарыяў для вучыцялёў беларусаў;

8) да ўводу ў бюджэты дзяржаўныя і самаўрадавыя адпаведных пазыцыяў крэдытовых на сярэдняе беларускае школьніцтва.

Варшава, 29 сьнежня 1925 г.

Падпісалі: Ф. Ярэміч, В. Рагуля, кс. А. Станкевіч, Тымошчук, Братунь, Чучмай, С. Подгорскі, Науман, кс. Клінке, Граебэ, Д-р Розмарын, Чэльгэр, Д-р Зоммэрштайн, Холяк, Э. Цэрбэ, Б. Козубскі, С. Макоўка, Фарбштайн П. Мятла, П. Валошын, С. Козіцкі, Рак-Міхайлоўскі, Прыступа, Пашчук, Войтюк, П. Васыньчук Назарук, Д-р Вінзэгер, Хруцкі.

(Канец).

